Народная газета

# Палажэнне аб парадку адабрання і прадастаўлення зямельных участкаў

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

У заяве грамадзян указваюцца мэта выкарыстання і размер зямельнага ўчастка, што запытваецца, месца яго размяшчэння, састаў сям'і, размер участка, які ўжо знаходзіцца ў валоданні або карыстанні грамадзяніна, а пры выдзяленні зямельных участкаў для касьбы і выпасу жывёлы, акрамя таго, колькасць і від жывёл, якія знаходзяцца ва ўласнасці.

14. Заявы грамадзян аб выдзяленні зямельнага ўчастка разглядаюцца сельскімі, пасялковымі, гарадскімі, раённымі Саветамі народных дэпутатаў у месячны тэрмін. Пры адсутнасці пярэчанняў у адводзе зямельнага ўчастка адпаведны Савет народных дэпутатаў дае заказ землеўпарадкавальным органам або органам архітэктуры і горадабудаўніцтва на распрацоўку праекта адводу зямельнага ўчастка.

Аб ходзе разгляду заяў грамадзян аб выдзяленні зямельнага ўчастка (у тым ліку аб матывах адмовы пры наяўнасці пярэчанняў) паведамляецца грамадзяніну ў месячны тэрмін з дня падачы заявы.

15. Матэрыялы па адабранню і прадастаўленню зямельнага ўчастка выканаўцам работ узгадняюцца з землеўладальнікам або землекарыстальнікам, раённымі (гарадскімі) органамі землеўпарадкавання, архітэктуры і горадабудаўніцтва, аховы прыроды і прадстаўляюцца на разгляд адпаведнага Савета народных дэпутатаў, які ў месячны тэрмін прымае неабходнае рашэнне.

## III. Парадак адабрання і прадастаўлення зямельных участкаў прадпрыемствам, установам, арганізацыям і кааператывам. Парадак папярэдняга ўзгаднення месца размяшчэння аб'екта

16. Папярэдняе ўзгадненне месца размяшчэння аб'екта, прыкладных размераў зямельных участкаў, якія намячаюцца да адводу, і ўмоў іх прадастаўлення праводзяць сельскія, пасялковыя, гарадскія, раённыя і абласныя Саветы народных дэпутатаў у адпаведнасці з іх кампетэнцыяй па адабранню і прадастаўленню зямель.

Папярэдняе ўзгадненне месца размяшчэння аб'екта на землях, адабранне і прадастаўленне якіх уваходзіць у кампетэнцыю Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, праводзіцца абласнымі, Мінскім гарадскім Саветамі народных дэпутатаў.

17. Прадпрыемствы, установы, арганізацыі, кааператывы[2], зацікаўленыя ў адабранні зямельных участкаў для нясельскагаспадарчых і нялесагаспадарчых патрэб, звяртаюцца з хадайніцтвам аб папярэднім узгадненні месца размяшчэння аб'екта з указаннем арыенціровачнай плошчы ўчастка і месца размяшчэння аб'екта, якое намячаецца, у адпаведны сельскі, пасялковы, гарадскі, раённы Савет народных дэпутатаў (па месцы знаходжання зямель, якія запытваюцца).

Да хадайніцтва прыкладаюцца неабходныя абгрунтоўваючыя матэрыялы і разлікі.

18. Сельскі, пасялковы, гарадскі, раённы Савет народных дэпутатаў у месячны тэрмін разглядае хадайніцтва прадпрыемстваў і пры станоўчым рашэнні дазваляе ім падрыхтоўку матэрыялаў папярэдняга ўзгаднення месца размяшчэння аб'екта.

19. Прадпрыемствы ўзгадняюць найбольш мэтазгодны варыянт месца размяшчэння аб'екта, размеры зямельных участкаў, якія намячаюцца да адводу, і ўмовы іх адводу з адпаведнымі землеўладальнікамі, сельскімі, пасялковымі Саветамі народных дэпутатаў (калі рашэнне аб узгадненні месца размяшчэння аб'екта будзе прымацца раённымі або абласнымі Саветамі народных дэпутатаў), раённымі (гарадскімі) органамі землеўпарадкавання, архітэктуры і горадабудаўніцтва, аховы прыроды, санітарнага нагляду, і пры неабходнасці, — з адпаведнай тэрытарыяльнай праектнай арганізацыяй (БелНДІПгорадабудаўніцтва, інстытутамі «Белпрампраект» і «Белаграпрампраект»), органамі пажарнага нагляду, іншымі зацікаўленымі арганізацыямі і службамі і прадстаўляюць матэрыялы ўзгаднення сельскім, пасялковым, гарадскім, раённым Саветам народных дэпутатаў, якія ў месячны тэрмін разглядаюць іх і прымаюць адпаведнае рашэнне.

Калі папярэдняе ўзгадненне месца размяшчэння аб'екта павінна праводзіцца абласнымі, Мінскім гарадскім Саветамі народных дэпутатаў, раённы Савет народных дэпутатаў у месячны тэрмін рыхтуе сваё заключэнне і матэрыялы перадае прадпрыемству, зацікаўленаму ў адводзе зямельнага ўчастка, для ўзгаднення з абласнымі, гарадскімі органамі землеўпарадкавання, архітэктуры і горадабудаўніцтва, аховы прыроды ў залежнасці ад назначэння, месцараспалажэння і ўмоў функцыяніравання аб'екта, з органамі лясной гаспадаркі, іншымі зацікаўленымі ўстановамі, арганізацыямі і для прадстаўлення ў абласны, Мінскі гарадскі Саветы народных дэпутатаў.

20. Абласны, Мінскі гарадскі Саветы народных дэпутатаў у месячны тэрмін разглядаюць прадстаўленыя матэрыялы і прымаюць рашэнне аб узгадненні месца размяшчэння аб'екта.

У выпадках, калі для прадастаўлення зямельнага ўчастка патрабуецца рашэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, абласныя, Мінскі гарадскі Саветы народных дэпутатаў прымаюць рашэнне аб узгадненні месца размяшчэння аб'екта пасля атрымання станоўчага заключэння Камітэта па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Беларускай ССР.

21. Для разгляду матэрыялаў папярэдняга ўзгаднення месца размяшчэння аб'екта Камітэт па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Беларускай ССР пры неабходнасці прыцягвае прадстаўнікоў Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па экалогіі, Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па архітэктуры і будаўніцтву, Міністэрства лясной гаспадаркі Беларускай ССР, Міністэрства аховы здароўя Беларускай ССР, іншых зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў Беларускай ССР.

Міністэрствы і ведамствы Беларускай ССР разглядаюць матэрыялы і даюць свае заключэнні ў 10-дзённы тэрмін.

22. Матэрыялы папярэдняга ўзгаднення месца размяшчэння аб'екта павінны ўключаць: копію плана адпаведнага землеўладання або землекарыстання з нанесенымі варыянтамі размяшчэння аб'екта, звесткі аб саставе адводзімых зямельных угоддзяў, іх якасці, умовах адводу зямель з улікам комплекснага развіцця тэрыторыі і ацэнкі ўздзеяння аб'екта на навакольнае асяроддзе, аб арыенціровачных сумах страт сельскагаспадарчай і лесагаспадарчай вытворчасці, звязаных з адабраннем зямель.

23. Рашэнне аб узгадненні месца размяшчэння аб'екта і размераў плошчы, якая намячаецца да адабрання, з'яўляецца сапраўдным на працягу трох гадоў. Указаны тэрмін можа быць прадоўжаны органам, які прыняў рашэнне аб узгадненні месца размяшчэння аб'екта.

24. Пасля правядзення праектна-вышукальных работ, зацвярджэння ва ўстаноўленым парадку праекта на будаўніцтва аб'екта зацікаўленыя прадпрыемствы хадайнічаюць аб прадастаўленні для гэтага аб'екта зямельных участкаў.

### Парадак узбуджэння і разгляду хадайніцтваў аб прадастаўленні зямельных участкаў

25. Прадпрыемствы, зацікаўленыя ў прадастаўленні зямельных участкаў, прадстаўляюць у адпаведны сельскі, пасялковы, гарадскі, раённы Савет народных дэпутатаў (па месцы знаходжання зямель, якія запытваюцца) хадайніцтвы з абгрунтаваннем неабходнасці адводу зямельнага ўчастка і яго размера. У выпадках адабрання зямельных участкаў адначасова з зямель населеных пунктаў, калгасаў, саўгасаў, іншых землеўладальнікаў і землекарыстальнікаў, а таксама ў выпадках, калі рашэнне аб прадастаўленні зямельнага ўчастка будзе прымаць абласны Савет народных дэпутатаў або Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, хадайніцтвы падаюцца ў раённы Савет народных дэпутатаў.

Да хадайніцтва прыкладаюцца:

матэрыялы папярэдняга ўзгаднення месца размяшчэння аб'екта;

даведка аб наяўнасці ў прадпрыемстваў сродкаў, неабходных для будаўніцтва аб'екта, пакрыцця страт, прычыненых землеўладальнікам і землекарыстальнікам адабраннем зямельных участкаў, і страт сельскагаспадарчай і лесагаспадарчай вытворчасці;

праект або схема размяшчэння аб'екта на зямельным участку, які запытваецца (копія генплана), з указаннем у іх чарговасці забудовы па гадах;

заключэнне дзяржаўнай экалагічнай экспертызы па праекту будаўніцтва аб'екта;

заключэнне Беларускага вытворчага аб'яднання па геолагаразведачных работах (у выпадках адводу зямельных участкаў для розных відаў будаўніцтва);

заключэнне органаў дзяржгортэхнагляду, копія або выпіска з горнаадводнага акта (у выпадках адводу зямельных участкаў для распрацоўкі месцараджэнняў карысных выкапняў).

Калі зямельныя ўчасткі прадастаўляюцца для распрацоўкі карысных выкапняў адкрытым спосабам або для будаўніцтва, звязанага з парушэннем глебавага покрыва, то адначасова прадастаўляецца праект рэкультывацыі зямель.

26. Пры адсутнасці пярэчанняў па адводу зямельнага ўчастка адпаведны Савет народных дэпутатаў на падставе прадстаўленых матэрыялаў у двухтыднёвы тэрмін дазваляе прадпрыемству распрацоўку праекта адводу зямельнага ўчастка. Раённы Савет народных дэпутатаў паведамляе аб прынятым па гэтаму пытанню рашэнні адпаведнаму сельскаму (пасялковаму) Савету народных дэпутатаў.

27. Распрацаваны праект адводу зямельнага ўчастка выканаўцам работ (з удзелам прадпрыемства, зацікаўленага ў адабранні зямельнага ўчастка) узгадняецца з землеўладальнікам або землекарыстальнікам, раённымі (гарадскімі) органамі землеўпарадкавання, архітэктуры і горадабудаўніцтва, аховы прыроды, санітарнага нагляду, іншымі зацікаўленымі арганізацыямі і службамі і прадстаўляецца для разгляду сельскаму, пасялковаму, гарадскому Савету народных дэпутатаў.

28. Сельскі, пасялковы, гарадскі (горада раённага падпарадкавання) Савет народных дэпутатаў у месячны тэрмін разглядае прадстаўленыя матэрыялы і прымае рашэнне, указаўшы ў ім размер зямельнага ўчастка, мэту, для якой ён прадастаўляецца, і ўмовы адводу.

Калі адабранне і прадастаўленне зямельных участкаў павінна праводзіцца раённымі, абласнымі Саветамі народных дэпутатаў або Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, сельскі, пасялковы, гарадскі (горада раённага падпарадкавання) Савет народных дэпутатаў у двухтыднёвы тэрмін рыхтуе сваё заключэнне, і матэрыялы аб адводзе зямельных участкаў накіроўваюцца раённаму Савету народных дэпутатаў.

29. Раённы Савет народных дэпутатаў у месячны тэрмін прымае рашэнне аб адводзе зямельных участкаў або дае сваё заключэнне, калі іх адабранне і прадастаўленне праводзіцца вышэйстаячымі Саветамі народных дэпутатаў.

30. Разгледжаныя раённым Саветам народных дэпутатаў матэрыялы аб адводзе зямельнага ўчастка выканаўца работ (з удзелам прадпрыемства, зацікаўленага ў адабранні зямельнага ўчастка) узгадняе з абласнымі органамі землеўпарадкавання, лясной гаспадаркі, архітэктуры і горадабудаўніцтва, аховы прыроды (у выпадках, калі аб'ект размешчаны з адступленнем ад раней узгодненага месца або ўмоў экалагічнай экспертызы), іншымі зацікаўленымі ўстановамі і арганізацыямі і накіроўвае абласному Савету народных дэпутатаў.

31. Абласны Савет народных дэпутатаў у месячны тэрмін вырашае пытанне аб адводзе зямельных участкаў, а па пытаннях, якія патрабуюць рашэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, праект адводу зямель са сваім рашэннем накіроўвае Камітэту па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Беларускай ССР.

32. Камітэт па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Беларускай ССР пры неабходнасці ўзгадняе матэрыялы аб адводзе зямельных участкаў з Дзяржаўным камітэтам Беларускай ССР па архітэктуры і будаўніцтву, Дзяржаўным камітэтам Беларускай ССР па экалогіі, Міністэрствам лясной гаспадаркі Беларускай ССР, Міністэрствам аховы здароўя Беларускай ССР (у выпадках, калі аб'ект размяшчаецца з адступленнем ад раней узгодненага месца або ўмоў экалагічнай экспертызы), у дваццацідзённы тэрмін рыхтуе прапановы аб адводзе зямельных участкаў (заключэнне, праект пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР) і ўносіць іх на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

## IV. Парадак атрымання дазволу на правядзенне вышукальных работ

33. Для атрымання дазволу на правядзенне геолагаздымачных, пошукавых, геадэзічных і іншых вышукальных работ на ўсіх землях тэрмінам да аднаго года прадпрыемствы прадстаўляюць у раённы (гарадскі) Савет народных дэпутатаў наступныя матэрыялы:

заяўку прадпрыемства, якое ажыццяўляе вышукальныя работы;

план (чарцёж) зямель, на якіх будуць праводзіцца вышукальныя работы;

дакументы, што абгрунтоўваюць размер зямельнай плошчы, на якой будуць праводзіцца вышукальныя работы;

дакумент аб згодзе землеўладальніка або землекарыстальніка, на землях якіх павінны праводзіцца вышукальныя работы, з указаннем тэрміну пачатку гэтых работ, месца і ўмоў іх правядзення;

заключэнне раённага (гарадскога) органа землеўпарадкавання, архітэктуры і горадабудаўніцтва, аховы прыроды.

Раённы (гарадскі) Савет народных дэпутатаў у двухтыднёвы тэрмін разглядае матэрыялы і прымае адпаведнае рашэнне.

## V. Устанаўленне граніц зямельнага ўчастка ў натуры і выдача дакументаў на права валодання або карыстання зямлёй

34. Устанаўленне граніц прадастаўленага зямельнага ўчастка ў натуры (на мясцовасці) ажыццяўляецца адпаведнымі дзяржаўнымі землеўпарадкавальнымі органамі або органамі архітэктуры і горадабудаўніцтва (выканаўцамі работ) у прысутнасці грамадзяніна або прадстаўніка прадпрыемства, якому прадастаўляецца зямельны ўчастак, землеўладальніка або землекарыстальніка, з зямель якога адбіраецца зямельны ўчастак, і ў выпадку неабходнасці сумежных землеўладальнікаў або землекарыстальнікаў.

Зямельны ўчастак замацоўваецца ў натуры межавымі знакамі.

35. Пасля заканчэння работ па перанясенню праекта ў натуру (на мясцовасць) выканаўцам работ складаюцца дзяржаўныя акты на права пастаяннага валодання (карыстання) зямлёй, на права пажыццёвага спадчыннага валодання зямлёй або афармляецца пасведчанне на права часовага карыстання зямлёй па формах, зацверджаных Саветам Міністраў Беларускай ССР. Указаныя дакументы састаўляюцца ў двух экземплярах: першы экземпляр выдаецца грамадзяніну, прадпрыемству, якому адведзены зямельны ўчастак, а другі экземпляр захоўваецца ў адпаведным Савеце народных дэпутатаў.

Дзяржаўныя акты на права пастаяннага валодання (карыстання) зямлёй, на права пажыццёвага спадчыннага валодання зямлёй, а таксама пасведчанні на права часовага карыстання зямлёй выдаюцца і рэгіструюцца:

сельскімі Саветамі народных дэпутатаў — пры прадастаўленні зямельных участкаў з зямель сельскіх населеных пунктаў;

гарадскімі (пасялковымі) Саветамі народных дэпутатаў — пры прадастаўленні зямельных участкаў з зямель гарадоў (пасёлкаў);

раённымі Саветамі народных дэпутатаў — пры прадастаўленні зямельных участкаў з іншых катэгорый зямель.

36. Садаводчаму і жывёлагадоўчаму таварыству Дзяржаўны акт на права пастаяннага валодання зямлёй выдаецца на землі агульнага карыстання (землі, занятыя ахоўнымі зонамі, дарогамі, праездамі, іншымі збудаваннямі і аб'ектамі грамадскага карыстання). На ўчастак, прадастаўлены члену садаводчага або жывёлагадоўчага таварыства, па прадстаўленню адпаведнага таварыства выдаецца Дзяржаўны акт на права пажыццёвага спадчыннага валодання зямлёй.

---

[2] У далейшым называецца — прадпрыемствы.

## *ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Беларускай ССР*

### Аб парадку адабрання і прадастаўлення зямельных участкаў

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць прыкладзенае Палажэнне аб парадку адабрання і прадастаўлення зямельных участкаў.

Савету Міністраў Беларускай ССР прывесці рашэнні ўрада Беларускай ССР у адпаведнасць з указаным Палажэннем.

2. Устанавіць, што пры адмове мясцовага Савета народных дэпутатаў у прадастаўленні зямельнага ўчастка грамадзянін Беларускай ССР, зацікаўленае прадпрыемства, установа, арганізацыя могуць абскардзіць яго рашэнні ў вышэйстаячы Савет народных дэпутатаў і ў суд.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

5 чэрвеня 1991 г.
гор. Мінск.

---

## Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

# Аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці сяла і аграпрамысловага комплексу*

Гэты закон вызначае асноўныя ўмовы і палажэнні прыярытэтнасці сацыяльна-культурнага і эканамічнага развіцця сяла і аграпрамысловага комплексу ў мэтах стварэння нармальных умоў жыцця і працы на сяле, харчовага і сыравіннага забеспячэння рэспублікі ва ўмовах рыначных адносін.

## РАЗДЗЕЛ I. Агульныя палажэнні

**Артыкул 1. Гарантыі дзяржавы па забеспячэнню прыярытэтнага развіцця сяла і аграпрамысловага комплексу**

Дзяржава гарантуе прыярытэтнасць развіцця сяла і аграпрамысловага комплексу эканамічнай, сацыяльнай і прававой палітыкай.

Прыярытэтнасць забяспечваецца:

першачарговым накіраваннем інвестыцый на развіццё сяла і аграпрамысловага комплексу;

крэдытна-фінансавай, цэнавай, рэсурснай і падатковай палітыкай;

сістэмай дзяржаўнай падтрымкі;

дэмаграфічнай палітыкай;

развіццём сельскагаспадарчай навукі і падрыхтоўкай кадраў.

**Артыкул 2. Заканадаўства аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці сяла і аграпрамысловага комплексу**

Адносіны, звязаныя з прыярытэтным развіццём сяла і аграпрамысловага комплексу, рэгулююцца гэтым Законам і іншымі заканадаўчымі актамі Беларускай ССР.

**Артыкул 3. Эканамічная дзейнасць аграпрамысловых таваравытворцаў**

Эканамічная дзейнасць аграпрамысловых таваравытворцаў ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці форм уласнасці, раўнапраўя ўсіх форм гаспадарання, гаспадарчай самастойнасці.

Умяшанне ў гаспадарчую або іншую дзейнасць аграпрамысловых таваравытворцаў з боку дзяржаўных, грамадскіх і іншых органаў не дапускаецца, за выключэннем ажыццяўлення правоў дзяржаўных органаў па забеспячэнню кантролю за іх дзейнасцю, прадугледжаных дзеючым заканадаўствам.

Аб'ём сельскагаспадарчай прадукцыі, якая рэалізуецца калгасамі, саўгасамі і іншымі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі па дзяржаўных (фіксаваных) закупачных цэнах, штогод зніжаецца не менш чым на 10 працэнтаў у параўнанні з папярэднім годам.

Не менш 80 працэнтаў валютнай выручкі, атрыманай вытворцамі прадукцыі аграпрамысловага комплексу, застаецца ў іх распараджэнні.

## РАЗДЗЕЛ II. Сацыяльная палітыка на сяле

**Артыкул 4. Фарміраванне сацыяльнай сферы на сяле і кіраванне ёю**

Развіццё і ўтрыманне сацыяльнай сферы сяла ажыццяўляюцца мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў. У іх веданне перадаюцца паэтапна ведамасныя сацыяльна-культурныя аб'екты (са згоды ўласнікаў або ўпаўнаважаных імі органаў).

Для забеспячэння развіцця і ўтрымання сацыяльнай сферы сяла мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў ствараецца фонд сацыяльна-культурнага развіцця сяла.

Парадак утварэння ўказанага фонду вызначаецца Саветам Міністраў Беларускай ССР. Размеры адлічэнняў і парадак выкарыстання фонду сацыяльнага развіцця сяла ўстанаўліваюцца абласнымі Саветамі народных дэпутатаў.

Прадпрыемствы і арганізацыі, размешчаныя ў гарадскіх населеных пунктах, работнікі якіх пражываюць у сельскай мясцовасці, уносяць плату за працоўныя рэсурсы ў фонд сацыяльнага развіцця сяла адпаведнага мясцовага Савета народных дэпутатаў.

Парадак спагнання і стаўкі платы вызначаюцца абласнымі Саветамі народных дэпутатаў.

На працягу 10 гадоў завяршаюцца газіфікацыя, водазабеспячэнне, электрыфікацыя і тэлефанізацыя сельскіх населеных пунктаў з улікам росту спажывання газу, вады і электраэнергіі сельскім насельніцтвам.

Газавыя сеткі і збудаванні на іх, якія належаць калгасам, саўгасам і іншым прадпрыемствам і арганізацыям аграпрамысловага комплексу, перадаюцца бязвыплатна на баланс эксплуатацыйных прадпрыемстваў Дзяржкампаліўгазу Беларускай ССР.

Унутрыгаспадарчыя дарогі калгасаў, саўгасаў і іншых прадпрыемстваў і арганізацый аграпрамысловага комплексу, якія злучаюць сельскія населеныя пункты (у тым ліку ў межах гэтых населеных пунктаў) паміж сабой і з сеткай дарог агульнага карыстання, адносяцца да аўтамабільных дарог агульнага карыстання і перадаюцца на баланс дарожных арганізацый Міністэрства будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог Беларускай ССР.

Да 1995 года завяршаецца будаўніцтва ўнутрыгаспадарчых дарог з цвёрдым пакрыццём.

**Артыкул 5. Сацыяльна-культурнае, бытавое і гандлёвае забеспячэнне сельскага насельніцтва**

Дзяржава гарантуе сацыяльную абарону сялянства, павышэнне яго жыццёвага ўзроўню. Сялу аддаецца перавага ў параўнанні з горадам (у разліку на душу насельніцтва) у будаўніцтве жылых дамоў, дамоў-інтэрнатаў, аб'ектаў народнай адукацыі, культуры, фізкультуры і спорту, аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння, гандлю, камунальна-бытавога назначэння, сродкаў сувязі, а таксама ў развіцці медыцынскага, гандлёвага, бытавога і іншых відаў абслугоўвання насельніцтва.

Сельскаму насельніцтву забяспечваецца роўны з гарадскім узровень (у разліку на душу насельніцтва) забеспячэння прамысловымі і харчовымі таварамі, а таксама перавага ў рэалізацыі яму легкавых аўтамабіляў і іншых транспартных сродкаў. Тавары з фіксаванымі цэнамі для жыхароў сяла і горада рэалізуюцца па адзіных цэнах.

Пенсіянерам, якія маюць асабістыя падсобныя гаспадаркі, для ўтрымання жывёлы штогод рэалізуецца ў разліку на адзін двор не менш 350 кг канцэнтраваных кармоў з фонду дзяржрэсурсаў, захаваўшы пры гэтым узровень сустрэчнага продажу іх за сельскагаспадарчую прадукцыю, які склаўся да 1990 года.

**Артыкул 6. Ільготы ў жыллёвым будаўніцтве на сяле**

Урад Беларускай ССР і мясцовыя Саветы народных дэпутатаў садзейнічаюць развіццю індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва на сяле, забяспечваюць штогадовае павелічэнне рыначных фондаў у рэспубліцы на будаўнічыя матэрыялы не менш чым на 10 працэнтаў да поўнага задавальнення патрэбнасці ў іх. Пры гэтым 90 працэнтаў указаных фондаў перадаецца сельскім Саветам народных дэпутатаў для індывідуальных забудоўшчыкаў.

Грамадзянам, якія пражываюць у сельскай мясцовасці, на будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў з надворнымі пабудовамі выдаюцца крэдыты на льготных умовах.

Жыхарам гарадоў, якія ажыццяўляюць індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва ў сельскай мясцовасці, выдзяляюцца зямельныя ўчасткі ў існуючых сельскіх населеных пунктах пры наяўнасці свабодных зямель.

Размеры індывідуальных жылых дамоў і гаспадарчых пабудоў у сельскай мясцовасці не абмяжоўваюцца.

**Артыкул 7. Ільготы на электраэнергію і адказнасць за электразабеспячэнне**

Жыхары сельскіх населеных пунктаў выкарыстоўваюць электраэнергію на камунальныя патрэбы па льготных тарыфах без абмежаванняў.

Страты, прычыненыя сельскім спажыўцам пазапланавым ці аварыйным адключэннем электраэнергіі (за выключэннем стыхійных бедстваў), кампенсуюцца ва ўстаноўленым парадку ў поўным размеры за кошт вінаватых у гэтым арганізацый электразабеспячэння.

**Артыкул 8. Ільготы спецыялістам сацыяльнай сферы, якія працуюць на сяле**

Спецыялістам, якія працуюць ва ўстановах аховы здароўя, народнай адукацыі, культуры, фізкультуры і спорту, сацыяльнага забеспячэння, размешчаных у сельскай мясцовасці, устанаўліваюцца павышаныя на 20 працэнтаў службовыя аклады (тарыфныя стаўкі) у параўнанні з аплатай працы адпаведных спецыялістаў, што працуюць у гарадах.

Мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў могуць уводзіцца дадатковыя павышаныя каэфіцыенты да заработнай платы работнікаў вышэй указаных прафесій у залежнасці ад тэрытарыяльнага размяшчэння навучальна-выхаваўчых, медыцынскіх, сацыяльна-культурных устаноў і ўзроўню сацыяльна-эканамічнага развіцця населеных пунктаў, а таксама можа выкарыстоўвацца кантрактная сістэма найму спецыялістаў.

**Артыкул 9. Ільготы грамадзянам, якія пражываюць і выязджаюць у сельскія населеныя пункты працаадсутных тэрыторый**

Грамадзянам, якія пражываюць у сельскіх населеных пунктах працаадсутных, а таксама выязджаюць у іх для работы ў сельскай гаспадарцы і сацыяльнай сферы сяла па запрашэннях гаспадарак і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў, устанаўліваюцца наступныя льготы:

прадастаўляюцца пасля прыбыцця асобныя жылыя дамы (кватэры) з надворнымі пабудовамі, узведзеныя ці купленыя за кошт сродкаў бюджэту або гаспадарак;

жылыя дамы (кватэры) з надворнымі пабудовамі, узведзеныя ці купленыя за кошт сродкаў бюджэту, перадаюцца ім у асабістую ўласнасць пры ўмове пражывання іх і работы ў сельскай гаспадарцы або сацыяльнай сферы сяла ва ўказанай мясцовасці не менш 10 гадоў;

браніруецца жылая плошча па месцы іх пастаяннага жыхарства на ўвесь час работы ў сельскай гаспадарцы або сацыяльнай сферы сяла.

Пералік сельскіх населеных пунктаў працаадсутных недастаючых тэрыторый вызначаецца Саветам Міністраў Беларускай ССР ці па яго даручэнню іншым органам.

**Артыкул 10. Ільготы для жанчын, якія працуюць у сельскай мясцовасці**

Жанчынам, якія працуюць у сельскай мясцовасці, устанаўліваюцца наступныя льготы:

працягласць штогадовага асноўнага водпуску не менш 28 каляндарных дзён;

занятым непасрэдна ў вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі адзін дадатковы выхадны дзень у месяц з захаваннем сярэдняй заработнай платы.

Жанчынам, якія прапрацавалі ў калгасах, саўгасах і іншых прадпрыемствах сельскай гаспадаркі, нарадзілі пяць і больш дзяцей і выхавалі іх да шаснаццацігадовага ўзросту, прадастаўляецца права выхаду на пенсію незалежна ад узросту, пры наяўнасці працоўнага стажу ў сферы непасрэднай вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі не менш 20 гадоў з залікам у стаж работы часу догляду за дзецьмі або пры стажы работы не менш 10 гадоў без заліку ў стаж указанага часу догляду за дзецьмі.

## РАЗДЗЕЛ III. Дзяржаўныя інвестыцыі і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне

**Артыкул 11. Фарміраванне дзяржаўных капітальных укладанняў**

Дзяржавай гарантуецца штогадовае выкарыстанне на сацыяльнае развіццё сяла і ўмацаванне матэрыяльна - тэхнічнай базы аграпрамысловага комплексу не менш палавіны агульнага аб'ёму капітальных укладанняў, якія выкарыстоўваюцца ў народнай гаспадарцы рэспублікі.

Не менш 40 працэнтаў дзяржаўных цэнтралізаваных капітальных укладанняў у рэспубліцы штогод накіроўваюцца на працягу 10 гадоў на рэалізацыю Дзяржаўнай праграмы адраджэння беларускага сяла.

Фарміраванне планаў будаўніча-мантажных работ і забеспячэнне іх матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі ажыццяўляецца на ўсіх узроўнях кіравання з улікам задавальнення патрэбнасцей у першую чаргу калгасаў, саўгасаў, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, перапрацоўчых галін і аграпрамысловага комплексу ў цэлым.

**Артыкул 12. Фінансавае забеспячэнне**

1. Для забеспячэння прыярытэтнага сацыяльнага і эканамічнага развіцця сяла і аграпрамысловага комплексу ўстанаўліваецца штогадовае бюджэтнае фінансаванне ў аб'ёме не менш 20 працэнтаў ад расходнай часткі бюджэту з улікам інфляцыі (без уліку кампенсацый, падаражэнняў прамысловай прадукцыі, паслуг і заработнай платы, індэксацыі ў сувязі з ростам рознічных цэн, інфляцыі і іншых надбавак і датацый).

За кошт рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў ажыццяўляецца будаўніцтва ў сельскай мясцовасці аб'ектаў аховы здароўя, культуры, фізкультуры і спорту, народнай адукацыі, камунальнай гаспадаркі, газіфікацыі, электрыфікацыі, тэлефоннай сувязі, радыёфікацыі, унутрыгаспадарчых дарог, прадпрыемстваў перапрацоўчай прамысловасці, цяпліц, агароднінасадавінасховішчаў і халадзільнікаў, меліярацыйных аб'ектаў, а таксама эксплуатацыя меліярацыйных сістэм і водагаспадарчых збудаванняў міжгаспадарчага значэння, закладка ў калгасах, саўгасах і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемствах садоў і іншых шматгадовых насаджэнняў. Затраты па будаўніцтву ўказаных аб'ектаў за кошт сродкаў калгасаў, саўгасаў і іншых прадпрыемстваў і арганізацый кампенсуюцца з рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў.

Валютныя асігнаванні аграпрамысловаму комплексу на мадэрнізацыю вытворчасці, укараненне прагрэсіўных тэхналогій, набыццё асобных відаў новых узораў машын і абсталявання, будаўніцтва заводаў па вытворчасці сучаснай тэхнікі прадугледжваюцца ў плане ў першачарговым парадку.

**Артыкул 13. Матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне**

Аграпрамысловаму комплексу асноўныя віды матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў для вытворчых, навукова-даследчых і рамонтна - эксплуатацыйных патрэб, уключаючы сацыяльную сферу сяла, выдзяляюцца цэнтралізавана мэтавым назначэннем ў аб'ёмах, якія задавальняюць нарматыўную патрэбнасць у іх.

Патрэбнасць аграпрамысловага комплексу рэспублікі ў прадукцыі вытворча-тэхнічнага і хімічнага назначэння, якая выпускаецца прадпрыемствамі, размешчанымі на тэрыторыі Беларускай ССР, задавальняецца ў поўным аб'ёме, а па прадукцыі, што выпускаецца за межамі рэспублікі, улічваецца ў поўным аб'ёме пры заключэнні міжрэспубліканскіх дагавораў па ўзаемных пастаўках.

## РАЗДЗЕЛ IV. Падаткі, крэдыты і страхаванне

**Артыкул 14. Ільготы па падатках і крэдытах**

Саўгасы, калгасы, міжгаспадарчыя і іншыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы (аб'яднанні) выплачваюць падатак з прыбытку па стаўках, што ўстанаўліваюцца абласнымі і Мінскім гарадскім Саветамі народных дэпутатаў, але не вышэй узроўню, які склаўся да 1991 года.

Прадпрыемствы, навукова-вытворчыя аб'яднанні і іншыя арганізацыі аграпрамысловага комплексу па вытворча-тэхнічнаму, транспартнаму і навуковаму абслугоўванню, матэрыяльна-тэхнічнаму забеспячэнню, рамонту і вытворчасці тэхнікі і абсталявання, абслугоўванню арашальных і асушальных сістэм выплачваюць падатак з прыбытку ў размеры 10 працэнтаў, прадпрыемствы перапрацоўчых галін аграпрамысловага комплексу — 20 працэнтаў. Прыбытак, які атрымліваецца ад вытворчасці прадуктаў дзіцячага харчавання, падаткам не абкладаецца.

Прыбытак прадпрыемстваў па перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі, якія ствараюцца ў сельскай мясцовасці, у першыя пяць гадоў работы падаткам не абкладаецца.

Прыбытак падрадных будаўнічых, рамонтна-будаўнічых і іншых арганізацый аграпрамысловага комплексу, атрыманы ад будаўніцтва і рамонту вытворчых аб'ектаў аграпрамысловага комплексу, абкладаецца падаткам у размеры 7 працэнтаў.

Прыбытак прамысловых, абслуговых прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу, атрыманы ад вытворчасці новых відаў машын і абсталявання для аграпрамысловага комплексу, першыя тры гады пасля іх асваення падаткам не абкладаецца.

Поўнасцю вызваляецца ад падаткаабкладання прыбытак навучальных устаноў, якія ажыццяўляюць на гасразліковай аснове падрыхтоўку, павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўку кадраў для аграпрамысловага комплексу.

Не абкладаецца падаткам сума прыбытку прадпрыемстваў і арганізацый незалежна ад форм уласнасці, якая накіроўваецца ў фонд сацыяльнага развіцця сяла мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

Прыбытак будаўнічых, мантажных і іншых прадпрыемстваў і арганізацый, прадпрыемстваў будындустрыі і прамысловасці, атрыманы ад будаўніцт-

(Заканчэнне на 5-й стар.).

---

* з улікам змяненняў, унесеных Вярхоўным Саветам БССР 7 чэрвеня 1991 года

